Нацыянал-моладзевы абвесьнік '7

# ГЭТА МЫ!



# Беларусь скрайняя

Усё часьцей і часьцей носьбіты правае Нацыянальнае Ідэі пачалі сутыкацца з тымі, каму нясьцерпна муляюць вочы Беларускія скрайнія лёзунгі. Збольшага гэтыя незадаволеныя нашымі скрайнімі рэаліямі – скрозь функцыянэры ўсемагчымых афарбовак. Аднак яны й не ўсьведамляюць, якія далёкія яны ад сваіх прыхільнікаў (перайначана кажучы словамі іхнага колішняга куміра – тав.Ульлянава). Пыхліва йдучы наўперадзе кажнае маніфэстацыі, яны ня бачаць, як лунаньне ў паветры скрайніх воклічаў выклікае стоадсоткавую падтрымку й ухвалу ў сталых удзельнікаў, ад якіх нярэдка можна пачуць: "Нарэшце паўстаў сапраўдны баёвы авангард Нацыі!"

Тымчасам супраціўнікі беларускае скрайнасьці ўпарта мянуюць сябе цэнтрыстамі. Але відавочна: залічэньне сябе да "палітычнага цэнтру" ёсьць станам бязважкім, прамежкавым, няўпэўненым. Слова "маргіналы", якім яны любяць зваць скрайніх Нацыяналістаў, рыхтык трапна падыходзіць да іх саміх. Толькі чалавек із гнуткай, маргінальнай пазыцыяй пакідае сабе шляхі да адступленьня то ў "*права*-цэнтрысты", то ў "*лева*-цэнтрысты" – залежна ад сытуацыі. Цэнтрыст – гэта маргінал і эгаіст, што ставіць за мэту расьцягваць Ідэю – Нацыянальную Ідэю, прыстасоўваючы яе да момантавых абставінаў. Нацыяналіст ня можа быць падобны да яго; не павінен паўзьменна аглядацца на вечна зьбянтэжаны твар "цэнтрыста"; ня мусіць падпарадкоўвацца ягоным скурным распараджэньням. Бо Нацыяналізм ёсьць прынцыповай скрайнасьцяй – скрайнасьцяй фанатычнае адданасьці Нацыі. Як неаднарозова падкрэсьлівалася, "імкненьне да скрайнасьці – гэта найбольш поўна выражанае ймкненьне да абсалютных Ведаў, а тэмпы экстрэміста заўжды будуць вышэйшыя за тэмпы памяркоўніка, які абмяжоўваецца павярхоўнымі дасьледзінамі".

І геній Беларускага Нацыянальнага Духу Вацлаў Ластоўскі задоўга да нас проста й дакладна вызначыў гэтае ймкненьне: "Дзеля дабра свайго народу й краю Беларус павінен быць гатовы да якіх-хоця ахвяраў".

Таму мы верым: нашая скрайнасьць – адзіна верны шлях. Бо за намі – моц Продкаў і праўда Нацыі.

*Ад рэдакцыі*

## Абярог сьвятарнага Парадку

Почасту можна пачуць гучныя спрэчкі што да важных бакоў надалейшага йснаваньня беларускага этнасу, – дыскусіі наконт назову краіны, абмеркаваньне вартасьцяў кірыліцы й лацінкі, неаднолькавае стаўленьне да дзяржаўных суседзяў. Ня мае рацыі той, хто ўважае гэткія развагі за пустое, бо да немінучае для нас Перамогі мы павінны дайсьці зь як найбольш канкрэтызаванымі мэтамі й ідэаламі. Народжаная ў спрэчках рэчаістая выява Беларускага Ладу ўнікнуцьме тады разбуральных раздраяў, калі праз разыходжаньне ў прынцыповых дробязях можа распасьціся неабходная нацыянальная Еднасьць. А пераможаны, але напружаны для нападу вораг, скарыстаўшы адсутнасьць у нас згоды пасьля нашае Перамогі, ня стане замілавана чакаць на нашае яднаньне – ён пойдзе ў рэваншысцкую атаку… Менавіта для таго, каб пазьбегнуць разыходжаньняў пасьля наканаванае Перамогі, неабходна зараз, цягам барацьбы, выцягнуць з куфру Беларускія Штандары, ускінуць на сьвежае паветра й выгукнуць бесьпярэчны воклі ч – "Раўнуй!"

Неад'емнымі складнікамі народнага сьветагляду ёсьць сымболі: закладзеная тысячагодзьдзямі таму генэтычная памяць успрыймае й засвойвае іх шматкроць лепей, чымся стосы неаспрэчных праграмных заяваў ды актуальных адозваў. Кожнае спалучэньне спарышоў, кручкападобных крыжоў, кропак мае ў беларускай арнамэнталёгіі свой сэнс. Вяртаньне з падсьвядомасьці ў сьвядомасьць закладзенае продкамі сутнасьці сымболяў – важная частка шляху да ўсталяваньня *Беларускага Ладу*. Тымчасам у пэўных колах ужо лунае думка аб вяртаньні зь нябыту *ягонага* сымболю – сымболю *Беларускага Парадку*.

*Працяг на стар. 2*

# АБЯРОГ сьвятарнага Парадку

Алесь Віталёнак



“Паводля даўняе паганскае веры нашых прадзедаў пачатак усяму ў шырокім сьвеце даў Правечны Кон. Ён прызначыў кірунак і долю багом і людзём, даў усяму жываму законы жыцьця, акрэсьліў канец, скон. Нашыя прадзеды, хочучы ўявіць сабе спрадвечнага Кона, выраблялі з каменю, мэталу або дрэва фігуру, складзеную з трох вужоў, сплеценых у вадно хвастамі й з раскінутымі ў розныя бакі галовамі. Гэта быў знак багаслаўленьня, знак сьвяты”, – пісаў напачатку стагодзьдзя ў “Нашай Ніве” Вацлаў Ластоўскі.

Такое атаясамленьне вужакаў із сьвятасьцяй, з багаслаўленьнем ня мусіць бянтэжыць. За дахрысьціянскіх часоў паміж нашымі продкамі й вужакамі не йснавала непрыязнасьці, якую пачалі накідваць адно фанатычныя да шаленства апалягеты хрысьціянства, якія, згодна юдэйскага Старога Запавету, вужаку атаясамлялі з д’яблам. У вадрозьненьне ад “зямлі запаветнае” беларусы надзвычай сугучна суіснавалі з вужакамі. У ваповесьці “Гражына” гэта адзначыў Адам Міцкевіч, узьнёсла апісваючы, як немаўлятка ды вужака мірна спалі ў вадной калысцы. Народны фальклёр-жа надаваў вужаку ўласьцівасьці ахоўніка хаты, пільнага спасьцерагальніка бясьпекі жытла. Такім чынам, невыпадкова, што ў якасьці пераходнага элемэнту ў выяве апісанага знаку абраны вуж-абаронца. Менавіта таму сымболь – спалучэньне трох вужоў займеў у народзе назоў *зьмеявік*.

Сэмантыка ягоная не абмяжоўвалася толькі павярхоўнай трактоўкай, але сягала вышэй – да сакральных паняткаў стараветнае беларускае веры, адным з арганічных частак якое й ёсьць зьмеявік. Каб высьветліць ягоную ролю ў сьветаўспрыйманьні нашых продкаў, варта паглыбіцца ў сьвятарны сьвет іхнае веры.

Старажытнае беларускае вераваньне абапіралася на траістасьці ўсяго існага (адсюль – тры прамені ў зьмеявіка). Збольшага ўсе рэлігійныя сыстэмы ад пачатку йснаваньня ў чалавецтва сьведамае думкі прызнавалі гэтую траістасьць рэчаў. Не чужы гэты панятак быў і грэцкай думцы – у прыватнасьці, школе платонікаў, ад якіх догма Тройцы была перанятая хрысьціянствам.

У славянскай веры таксама йснавалі тры постаці Тройцы. Першая зь іх – Найвельшы, бацька багоў, валадар неба, старэйшы. Ён ня мае адзінага найменьня, а ймёны, даваныя Яму рознымі народамі – гэта ўсё ягоныя прыметнікі, як і нашае Найвельшы. Яму, сіле першапрычыннай, належыць пашана ад усяго жывога.

Другая асоба славянскае Тройцы – Правечны Кон, чые ўсталяваныя законы вечныя й непарушныя. Сымболем Ягонае справядлівасьці ў славянаў лічыўся белы бык – тур. А ўвасабленьнем самога Кону на зоркавым небе – сонца.

Трэйцяй асобаю нашае Тройцы ёсьць Сіціўрат (жыцьцеварот). Шмат што паказвае, што Сіціўрат і знаны Ярыла гэта адна й тая-ж асоба: індуісцкаму богу Шыве, які ў індуісцкай Тройцы (!) гэтаксама зьяўляецца трэйцяй асобай, у санскрыце маецца эпітэт *Гары*, што падобна да Яры, Ярыла, Яравід. У індуізьме Шыву клічуць мсьціўцам – гэта азначае, што й нашаму Ярыле між іншага надавалася здольнасьць мсьцівае сілы...

У народных уяўленьнях Ярыла выглядае як малады прыгожы мужчына, які езьдзіць на белым кані й у бель апрануты. Нядзіўна, што сіла мсьцівая выяўлялася як белая, сьветлая, яркая, – гэта дзеля ейнага ўласкаўленьня (гэтак-жа, каб ня ўкведіць грознае сілы, агонь завецца багачом, сьвятлом, страшны Лясун – Дабрахотам, а чорны балотны дух – Бялуном). Зь Ярылам атаясамляецца найперш крыж із дзьвюма папярэчкамі аднолькавае даўжыні. Раўналежнікі зь Ярылам бачым і на беларускім гербу – “Пагоні”. На белым кані белы рыцар, які трымае шчыт зь ярылавым крыжам, – няйначай як сам бог Ярыла-Сіціўрат. Гукаюцца міжсобку й паняткі Пагоні й Помсты: у беларускай гісторыі яны маюць падобны, ці не ўзаемазамяняльны сэнс. А значыцца – трэйцяя асоба нашае Тройцы – гэта бог Ярыла.

Такім чынам бачым: Ярылаў крыж – гэта ўвасабленьне Помсты ворагам і здаровага нацыянальнага Рэваншу. Ярылаў крыж – гэта Барацьба. Тая самая Барацьба, якая ёсьць адзіным выратавальным шляхам для Беларускае Нацыі. І на сёньняшнім этапе менавіта гэты сымболь увасабляе нашае змаганьне за Беларускую Волю. Аднак вечна змагацца немагчыма: калі можна й трэба ўвесьці ў вабсалют лад жыцьця спартанскіх ваяроў, дык безь перапынку біцца – дарога самагубцы. Прыклад таму – параўнайце Нямеччыну 30-ых і Нямеччыну 40-ых гадоў. Значыцца, нашай канчатковай мэтай ёсьць Парадак, а Барацьба – толькі сродак. І дарма некаторыя гэта блытаюць.

Увасабленьнем нашага ймкненьня да Беларускага Ладу, трывалага й непарушнага, зьяўляецца *зьмеявік* як сымболь Правечнага Кону. Нашыя продкі ў глыбокай спракаветнасьці уважалі яго за абярог дабрабыту, бо той, чыім знакам ён зьяўляецца, даў усяму існаму законы жыцьця. А йснаваньне непарушных законаў азначае йснаваньне непарушнага парадку. У сёньняшнім разуменьні – Беларускага Парадку. І мы верым: Беларуская Нацыя, асьвечаная сьвятарным для яе зьмеявіком, прыйдзе да свайго Ладу, да свайго Парадку – на грунце закладзенага Продкамі падмурку.



*Міхась Свораб*

# ГОДЗЕ заробку на пошасьці!

У сёньняшні, пераходны пэрыяд на нашую Айчыну абрынуліся адразу некалькі нахлыняў, скіраваных супраціўнікамі Беларускае Волі на найгалаўнейшае, што можа мець этнас, – на ягоную будучыню, ягоны генафонд, ягоныя пэрспэктывы захаваньня. Складнікаў гэтае навалы процьма – сярод найгалаўнейшых можна вызначыць: асыміляцыю Беларусаў з маскальскай біямасаю (нутраны чыньнік), зьніштажэньне Беларускае дзяржавы як формы этнічнага самавыяўленьня (вонкавы чыньнік), урэшце – паслабленьне імунітэту й падрыў здароўя Беларуса (утоены чыньнік). За праявы апошняга зь пераліку можна ўважаць і праект будаўніцтва новае АЭС на Беларусі, і разьмеркаваньне маладых спэцыялістаў у чарнобыльскую зону, і - замаскаванае спрыяньне распаўсюду хваробных пошасьцяў. І калі амаль усе згаданыя захады маюць на мэце выроджаньне беларускага этнасу з палітычных прычынаў, дык апошняму ўласьцівы трохі іншы характар. А менавіта – грашовая, ліхвярская зацікаўленасьць. Тут першыя радкі займае сытуацыя з распаўзаньнем скрозь па Беларусі СНІДу, чые сумеры ўжо ёсьць нацыянальнай катастрофаю: сёньня на Беларусі афіцыйна зарэгістраваныя каля 3 тысячаў хворых на СНІД. Прычым, згодна з мэтодай падліку Сусьветнае арганізацыі здароўя, каб атрымаць рэальную колькасьць хворых, афіцыйныя лічбы трэба прынамсі ўдзесяціць.

90 адсоткаў ад хворых на СНІД складаюць спрыцавыя наркаманы, да якіх штогод далучаецца тысяча некалі здаровых маладых людзей. Адвольна гэтага не адбываецца: прадаўцы "белае сьмерці" й зацягвальнікі ў наркатычнае гібеньне – гэта людзі добра зарганізаваныя й закансьпіраваныя. Але, правёўшы ланцуг дарэшты, няцяжка высьвятліць, што 80 адсоткаў ад гэтых бесчалавечных істотаў - гэта асобы каўкаскае й цыганскае нацыянальнасьцяў, якім, безумоўна, глыбака ўсё адно, які далягляд чакае на іхных "спажыўцоў". І бясплённай іхную пошасьцевую дзейнасьць не назавеш, бо, як сьведчыць бесстаронная статыстыка, за апошнія некалькі гадоў зьвязаная з наркотыкамі злачыннасьць павялічылася ў 12 разоў, памеры сканфіскаваных калёсаў – ў 20 разоў, колькасьць зьдзейсьненых пад наркамухаю злачынстваў – у 30 разоў.

Гэткім чынам мы бачым: бандыцкая цыганакаўкаская набрыдзь павялічвае свае прыбыткі за кошт здароўя Беларускага генафонду й для нацыяналістаў гэты працэс ёсьць небясьпекаю, ці ня роўнаю расейскай навале. Сяньня, покуль Беларус б'ецца з акупацыяй духоваю, за ягонай сьпінаю маладую Беларусь пакрысе нішчыць акупацыя фізычная ў васобе ненажэрных чужынскіх п'явак. Становіцца відавочным, што скіроўваць высілкі на адзін фронт барацьбы, не зважаючы на другі, – згубнае зацыкленьне самагубцы, бо гэта зводзіць нашыя намаганьні па першым кірунку да нулю.

Варта адцеміць, што некаторы час таму адной беларускай арганізацыяй была распрацаваная апэрацыя зьніштажэньня буйнога пункту канцэнтрацыі наркотыкаў у вадным з гарадоў Усходняе Беларусі. Тады перашкодзіла непрыхаваная падтрымка "праваахоўчымі органамі" каляровых распаўсюднікаў наркатычнае пошасьці. Калі гэта й ёсьць правапарадкам "a la расейскі брат", дык тут адразу ўсё становіцца на свае месцы й бачна, хто ёсьць зьнішчальнікам, а хто – патуральнікам зьнішчэньня Беларускага генафонду. І да таго часу яны будуць сядзець на Беларускім карку, покуль ня прыйдзе ўсьведамленьне рэальнага становішча рэчаў, покуль Беларус ня скажа цьвёрдага "годзе!" здрадлівым чужынскім прайдзісьветам. Вымавіць і станецца вольным!

# Нацыянальная воля

Серж Красьнічынскі (NS)

Для ўсіх тых, хто не становіцца ў апазыцыю да ўласнага розуму, відавочна, што герархія непазьбежна прысутнічае ў любым грамадзтве, бо адлюстроўвае натуральны стан грамадзкае няроўнасьці, існуючае між людзьмі. Прычым, якую-б герархічную піраміду мы не раскладалі, заўжды будзем вылучаць у ёй ня менш за чатыры асноўныя кампанэнты. Гэтая колькасьць адпавядала каставаму падзелу ў арыйскай Індыі (брахманы, кшатрыі, вайш'і й шудры; г.зв. "недатыкальныя" заставаліся па-за кастамі), а таксама герархічнай сыстэме ў Ідэальным Грамадзтве Платона, што выкладзеная ў дыялёгах "Дзяржава" й "Законы" (філёзафы-мудрацы, ваяры, земляробы й рамесьнікі). Прычым, кожнай з кастаў уласьцівая свая адметная мэнтальнасьць, якая розьніцца прыярытэтамі інтарэсаў агульнанацыянальных – для дзьвюх першых кастаў, і вузкасацыяльных – для дзьвюх апошніх. Моцай-жа, што зьвязвае ў вадзіны нацыянальны ці нават дзяржаўны арганізм усе гэтыя сацыяльныя групы, выступае Нацыянальная Воля.

У моманты, найбольш крытычныя для йснаваньня супольнасьці, Нацыя дэманстравала сваю жыцьцястойкасьць праз Волю, што вяла ейных лепшых сыноў на вежы крыжацкіх замкаў і на маскоўскія муры. Фарматворчая воля супольнасьці яшчэ ў дадзяржаўны пэрыяд ейнае гісторыі, раней за культуру, а мо' нават раней і за мову, была паказьнікам адметнасьці племя ці групы плямёнаў (хаўрусу). І менавіта гэтая Воля гартавала плямёны ў народ, а пасьля здабыцьця дзяржаўнасьці – у Нацыю. І гэтая-ж воля фармавала адзіную культуру супольнасьці й нармавала мову. Гэтая Воля ўзьвяла Дзяржаву – Дзяржаву Нацыянальную, і ў моманты, калі супольнасьць знаходзілася ў найбольшай небясьпецы, калі пад пагрозай было ейнае фізычнае ці мэнтальнае выжываньне, калі Нацыя стаяла, як казаў Купала, на гістарычным "зломе", у часы, калі вырашаўся ейны лёс, гэтая воля праяўлялася гэтак-жа моцна, як і ў часы Дзяржаўнага будаўніцтва.

Актаў-жа дзяржаўнага будаўніцтва таксама было зьдзяйсьнёна нямала, бо заняпалую, расьцярушаную ці нават зваяваную чужынцам Дзяржаву штораз даводзілася аднаўляць, і здольная рабіць гэтую справу была Нацыянальная алігархія* нашага раньняга Сярэднявечча, княская й шляхецкая эліта, традыцыі якое мы мусім пераймаць зараз, бо менавіта гэтая эліта была асноўным выразьнікам Нацыянальнае волі супольнасьці.

І паводле магутнасьці ўзьдзеяньня, і паводле моцы гэтую волю можна параўнаць хіба з гэнай, якую характарызуе Баляслаў Прус (Главацкі) у сваім "Фараоне": "Воля, што знаходзіць гэткую колькасьць выканаўцаў, якое няма ні ў воднага цара ў сьвеце, і ажыцьцяўляецца гэтак плянамерна й настойліва, як гэта можа быць толькі ў багоў". І ці не таму з старажытнымі багамі раўняў мітычны прывід Ластоўскага нашых далёкіх продкаў, што якраз мелі гэтую волю - волю Нацыянальную, якая мусіла быць рухальнай моцаю ў этнічнай і дзяржаўнай эвалюцыі – прагрэсе супольнасьці. Менавіта таму й "здольны народ быў, прадзеды вашыя… Памятаю гэты сьветлавалосы народ: мужны, як дубы, усе высокія, зграбныя, а гонару колькі было ў сьветлых вачох іхных. Благі тавар зь іх быў на нявольнікаў: запраданыя ў няволю, паміралі моўчкі, бо не хацелі схіліць свае галавы перад чужой воляй... Вашыя прадзеды волю любілі, паміралі, пазбаўленыя волі, зь імем народу свайго й зямлі свае на вуснах... Нешта зь бесьсьмяротных было ў паставе й вачох прадзедаў вашых…" І ня просты сьмяротны, але алімпійская багіня робіць гэтую выснову – мастацкі прыём, праз які аўтар імкнецца падкрэсьліць вылучную аўтарытэтнасьць і слушнасьць выкладзенае думкі. І думаецца, што якраз гэныя пакаленьні ўладароў, гэтак-жа як і тагачасная ваярская шляхта, мелі трывалы імунітэт супроць таго рабскага духу, што апаноўваў пазьнейшыя пакаленьні кіраўнічых кастаў і першымі прывёў іх да нацыянальнае здрады. І гэтым духам рабоў бы ланцугамі скутыя яшчэ й сёньня крэўныя нашчадкі гэнае здэградаванае арыстакратыі, што, пазбавіўшыся нацыянальнае сьвядомасьці дый проста сумленьня, ціха, сыта й "мірна" сьпіць, але сьпіць пад "няславай", як адзначыў Купала яшчэ напачатку стагодзьдзя, духова адчуваючы гэтую атмасфэру – атмасфэру абыякавасьці да лёсу Нацыі, што пануе ў

*Тут: улада тае меншасьці, што складаецца з найлепшых прадстаўнікоў карэннага народу (у дадзеным кантэксьце – Нацыі)





васяродзьдзі ейных некалі лепшых прадстаўнікоў. І ня верыць пясьняр, што гэтак лёгка скарыліся яны чужынскаму тырану:

"Што бачу? – ўсё сьпіць пад няславай…
Ці-ж праўда? – няўжо гэта вораг асіліў?"

І як у ланцуговай рэакцыі перакідваецца гэты пагібельны настрой, гэты дух рабства на ўсю супольнасьць, ад вышэйшых кастаў да ніжэйшых, нібы падмацоўваючы даўнюю прыказку "рыба псуецца з галавы":

"Няўжо ўвесь народ упаў гэтак нікчэмна
І даўся бяз голасу дэспату ў рукі?
Няўжо дух свабоды, дух сілы мяцежнай
Замёр і ня ўскрэсіш ніякай прынукай?"

Эх, пайду я ў поле
Долечкі шукаць
З востраю касою
Як на сенажаць!
(селянін)

Ой, пайду я ў поле
Як-бы на вайну
Шукаючы волю
Шаблечкай махну!
(шляхціц)

І гэтыя песьні "дзіўныя", і гэтыя заклікі да змаганьня яшчэ незразумелыя тутэйшаму абывацелю, пазбаўленаму гераічнага духу, што мелі ягоныя прашчуры, аднак ужо вучыцца ён на прыкладзе адважных і запальваецца гарачым імкненьнем да подзьвігаў, прагнучы іхнае славы. І ўжо бачыць паэт, як дзеля супраціву чужынцам выходзіць новая, загартаваная ў сечах лютых ваярская эліта:



(тамсама)

І гэты запыт, які Купала ймкнуўся адрасаваць лепшым сыном Нацыі, гэтыя радкі, якімі пясьняр спрабаваў абудзіць нацыянальную волю Беларуса яшчэ ў 1907-ым годзе, вельмі дакладна асацыююцца зь Беларусяй другое паловы XX-ага ст., дзе ёсьць і замерлы да часу народ, і дэспат, што трымае народ у сваіх д'яблавых капцюрох.

Але ўсё той-жа Купала называе гэткі стан зьявішчам "перад бурай", адпаведна з чым і названы сам твор, перад бураю дзеіцца тое таму, што хай паціху, паволі, але ўжо выходзіць на герархічную паверхню новая нацыянальная эліта, якая мае іншыя настроі, іншыя інтарэсы ды мэты, што сымбалізуюць абуджэньне супольнасьці ад стогадовага рабскага сну. І гэтае абуджэньне заўважыў Купала зноў-жа напачатку XX-ага ст., нібы выкрываючы перад намі затоеныя мары яшчэ "не сасьпелага", але ўжо поўнага гарачага ймкненьня да Волі юнака, будучага прадстаўніка новае нацыянальнае алігархіі. І гэты лірычны герой, што спалучае ў сабе лепшыя прыкметы адразу дзьвюх кастаў (звычайнага селяніна-працаўніка й шляхціца-ваяра), не выяўляе таго рабскага духу, якім скутыя ягоныя бацькі: ён ужо прэтэндуе на тое, каб самому вырашаць і будаваць свой лёс, – выдатная пэрсаніфікацыя маладое Беларусі:

І выйшлі людзі сільныя
На бітву на крывавую
Дый сьмерцяй акрыліліся
Хоць несьмяротнай славаю.

(Я.Купала. Я бачыў душы сільныя. 1905-1907)

І веру ў гэтую эліту й ейны фарматворчы дух ня меней палымяна выказвае й Максім Багдановіч у сваім, ужо клясычным санэце:

Вось сымбаль твой, забыты краю родны!
Зварушаны нарэшце дух народны,
Я верую, бясплодна не засьне,
А ўперад рынецца, маўляў крыніца,
Каторая магутна, гучна мкне,
Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца.

(М.Багдановіч. Санэт. 1911г. "Паміж пяскоў Эгіпэцкай зямлі…").

Сяргей Карпоўскі

# Чым ёсьць фашызм?

Сяньня ў нашым грамадзтве ўсё болей гавораць аб “фашызьме”, аб “крыптафашызьме”, аб “нэафашызьме” й г.д. Падаецца даволі дзіўным той факт, што чым болей дзесяцігодзьдзяў аддаляюць нас ад паразаў краінаў Восі ў Другой Сусьветнай вайне, тым большую цікавасьць выклікае ўсё, зьвязанае з фашызмам і германскім нацыянал-сацыялізмам, тым часьцей гэтыя паняткі неправамоцна атаясамляюцца. Тымчасам фашызм – гэта зусім асаблівы сьветаглядны фэномэн, які мае свае фундамэнтальныя асновы й свае філязофскія прынцыпы, сваю адмысловую катэгорыю прыхільнікаў і сваю ўласную гісторыю, што налічвае не адно дзесяцігодзьдзе. І, відаць, дзеля забароны гэтае ідэялёгіі недастаткова таго факту, што фашыстоўскія рэжымы былі здыскрэдытаваныя пасьля свае паразы, бо відавочна, што ў вадваротным выпадку Нюрнбэрскае асуджэньне гэтага сьветагляду было-б немагчымае.

Часьцяком мяно “фашыстовец” начэпліваюць адзін на аднога палітыкі й ідэёлягі сама разначынных арыентацыяў, дый проста звычайныя людзі падчас сварак. Адныя не сумняваюцца ў тым, што “фашызм” і “камунізм” – гэта папросту адное й тое-ж, іншыя (напрыклад, Новыя Левыя) адназначна атаясамляюць “фашызм” і “буржуазную дэмакратыю”, “фашызм” і “капіталізм”. Увогуле сёньня “фашызмам” рызыкуе звацца ўсялякая палітычная, эстэтычная, нацыянальная, культурніцкая й нават побытавая праява незалежна ад ейнае скіраванасьці, характару альбо якасьці. Тымчасам напачатку свайго станаўленьня фашызм як палітычная ідэялёгія меў зусім іншы, адрозны ад сёньняшніх фармулёвак, кірунак. Гэтак, у Італіі лібэральнаму, дэмакратычнаму, чыста капіталістычнаму рэжыму, што знаходзіўся ў змове зь недзеяздольнай манархічнай уладаю, а таксама марксісцкім і анархістычным тэндэнцыям, фашыстоўцы на ідэялягічным узроўні супрацьпаставілі Рымскую Традыцыю, моцную цэнтралізаваную дзяржаву, нацыяналізм, культ трансцэндэнтнага Правадыра, ге-раічны рамантызм, што апяваў любоў да подзьвігу ў імя самога подзьвігу, сакральную сьмерць героя ў баі, арганізаванасьць, строгасьць, герархію. Гэткім чынам, раньні фашызм разьвіваўся згодна з асноўнай парадыгмай г.зв. “Трэйцяга Шляху” – тады яшчэ новага сьветагляду, адначасова глыбака традыцыйнага й авангарднага, зьвязанага з сакральным паняткам глебы (гісторыя, традыцыі, прашчуры), які ймкнуўся да неба, – сьветагляду, што няўмольна ўрываецца ў нашую рэчаіснасьць і нават ·усур’ёз прэтэндуе на панаваньне ў нашым грамадзтве, набываючы абрысы ідэйнае, палітычнае, культурніцкае й духовае плыні, што не прызнае старых клясычных мадэляў – як капіталізму, гэтак-жа й марксізму, як лібэральнае ўтопіі Захаду, гэтак і таталітарнае спадчыны Усходу.




*P.S. А антыфашызм сёньняшніх анархістаў тлумачыцца іхнай варожасьцяй да самога інстытуту дзяржавы (для фашыстоўцаў – найвышэйшае каштоўнасьці). Антыдзяржаўніцтва маладых анархістаў мае да таго-ж інфантыльную этымалёгію: падобныя бунтарскія праявы супроць сымболю герархіі ёсьць парэшткамі канфрантацыі падлеткавае фізыялёгіі зь сьвядомасьцяй юнака, калі гэтая канфрантацыя экстрапалюецца (пераносіцца – рэд.) на канфрантацыю паміж сэксуальнымі жаданьнямі індывідума ды магчымасьцямі іх рэалізаваць, асабліва тады, калі гэтыя магчымасьці абмяжоўваюцца праўнай сыстэмаю дзяржавы. Зразумела, што рэакцыя на інстытут дзяржавы ў гэткіх індывідумаў мае суб’ектыўна адмоўны характар.*

# Вадзім Карцаў: “Выкрышталізоўваць у мастацкай форме патрыятычную думку”

Знаёмцеся: Вадзім Карцаў – рэдактар і выдавец газэты СЫМБОЛЬ. 23 гады. Барысавец. Авіятэхноляг паводле адукацыі, мэнэджэр кантактавае групы Маладога Фронту. Навучаецца на факультэце мэнэджмэнту Інстытуту кіраваньня й прадпрыймальніцтва. З уласнае ініцыятывы ліквідуе эканамічную непісьменнасьць сярод сябраў МФ – ладзіць мінілекцыі падчас паседжаньняў. Гутарыць Лідзія Патачыц.

***Л*.П. Спадар Карцаў, для зачыну: як узьнікла ідэя й назоў Вашае газэты?**

*В*.К. Моцнага друкаванага слова беларусам не ставала з часоў Другое сусьветнае. Між таго, апошнім часам сталася відавочнаю нутраная цэнзура незалежных выданьняў. Пасьля справы Славаміра Адамовіча ніводнае (паводле маіх назіраньняў), на’т нефармальнае, я ўжо не кажу пра рэгістраваныя, выданьне не наважылася публікаваць чагось суадносна з “Убей президента” рэзкаа. Таму першы нумар СЫМБОЛЮ ня быў уласна маёю ідэяй – ён рэфлексія групы патрыётаў на нястачу сьвежага паветра. Я толькі зарганізаваў працэс тае рэфлексіі. Што да назову. Спачатку плянавалася назваць газэту “Свабодныя радыкалы”, але потым – амаль біблійны сюжэт – я ў сьне выразна прымроіў той лягатып, які сёньня выклікае гэткую цікаўнасьць.

***Л*.П. Такая цікаўнасьць, а наклад, калі памыляюся, сто асобнікаў...**

*В*.К. Зрабіць тысячу, раздаць на якой-колечы акцыі дзядзькам, цёткам ды школьніцтву й чакаць, што прыйдзе першым – удзячныя лісты ад чытачоў ці позва з карных органаў? Не. СЫМБОЛЬ – элітнае, можна сказаць, клюбнае выданьне. Новыя чытачы самі, ці то пабачыўшы абвестку ў іншай газэце, ці ад знаёмцаў даведаўшыся на нашую адрэсу, пішуць і замаўляюць нумары. З кожным карэспандэнтам-замоўнікам мы маем зваротную сувязь, лістуемся. Кожны з чытачоў – патэнцыйны аўтар; калі ня аўтар, дык дарадца, генэратар новых думак. Да таго-ж, стасункі не наўпрост, але праз пошту, утвараюць сыстэму юрыдычнае бясьпекі, бо прыватнае ліставаньне нават пад савецкай акупацыяй не магло стацца фармальнай прычынаю для перасьледу. Калі-б СЫМБОЛЬ распаўсюджваўся адкрыта, даўно ўзьніклі-б праблемы з нагоды “заклікаў”, “распальваньня”, “незаконнага распаўсюду” й да таго падобнага. А наклад газэты, дарэчы, не абмежаваны. Штозамоўнік атрымае любы нумар дарма.

***Л.П.* Колькі нумароў ужо выйшлі?**

*В.К.* Калядамі – пяты.

***Л.П.* Дык пра што-ж выданьне? Якія ў яго мэты?**

*В.К.*Мы імкнемся выкрышталізоўваць у мастацкай форме беларускую патрыятычную думку…

***Л.П.* Перапрашаю – што зрабіць?**

*В.К.* Улёткавы фармат СЫМБОЛЮ прымушае аўтараў сьцісла падаваць свае думкі, а я, рэдактарам, не накірую ў друк адно голых дэклярацыяў. Паміж гэтымі двума валкамі й адбываецца пракат сталёвага стрыжню нацыянальнае ідэі. А мастацкая форма – гэта ўмова ўспрыйманьня нашых думак ад’емнай “ад нацыяналізму” часткай аўдыторыі. Пагадзецеся, добры верш хутчэй зачэпіць абывателя, чымся дакучлівая лекцыя пра ролю нацыяналізму ў сусьветных палітычных працэсах.

***Л.П.* Дык Вы прэтэндуеце на ролю ці не галоўнага ідэёляга беларушчыны?**

*В.К.* Ідэялёгія – гэта сукупнасьць лёзунгаў, абгрунтаваная духовасьцяй, верай ды лёгікай. Над грунтам, то бок аргумэнтацыяй, працуюць прафэсіяналы; іх шмат, імёны вядомыя. Я-ж праз *Сымболь* камутую самыя лёзунгі, габлюю іх бы карты ды раскладаю свой пасьянс.

***Л.П.* На заканчэньне – скажыце што-небудзь нашым чытачом.**

*В.К.* Спадарства, годзе марудзіць! Мы мусім абараніць Радзіму. Калі не прыхільныя да збройнае барацьбы, бярыце мечам слова. Часьцяком яно магутнейшае за дынаміт. Але слова толькі тады мае моц, калі можа быць патлумачанае. Не кажыце абы казаць. Будзьце адказныя за свае словы, як ваяр адказны за ўласную зброю! Не страляйце ў паветра ці мімацэль.

***Л.П.* А я хачу дадаць: дасылайце свае вершы, прозу, малюнкі дый проста ідэі ў вольную газэту СЫМБОЛЬ. Замаўляйце новыя ды старыя нумары, даслаўшы свае каардынаты й паштовыя маркі. Адрэса СЫМБОЛЮ: 220037, Менск, а/с 50. Дзякуй за інтэрвію, сп.Карцаў.**



Справа - Вадзім Карцаў

З пошты:
«Прыемна, што газэта прапаведвае беларускі нацыяналізм (яскравы ўзор - «Беларусь для Беларусаў», N 4). Засьцерагайцеся прыпадабняцца да нашае смаркатае дэм.прэсы». П.Ш.

# Ускалыхваем нечысьць

З пошты:
«Трэба сьмела выйсьці за межы звычайнае журналістыкі й сёньняшняе суб"ектыўнае сытуацыі. Вашая лінія павінна быць цьвёрдай, але пры гэтым суцэльнай і красамоўнай».
С.П.



Акінуўшы позіркам апошнія нашыя нумары, спадарства, пэўне, мае здагадвацца, які розгалас яны выклікалі. Разнанотавае скуголеньне ўсчалося ці ня з кожнага катуху паабдзертае апазыцыйнае панэлі. Нават пяцідаляравыя анархі-левакі ўзьнялі свае запырсканыя пысы й ачмурана прызналі, што нашая газэта – насамрэч зьявішча й насамрэч багата псапсуе гандыйскую маліну дэм.тусьняку. Самі мы ў гэтым ані на каліва ня маем сумневаў, і такія шчырасьці (хоць і ад панюў, хоць і пад адхадняк) толькі мацуюць нашую перакананасьць у гэтым. Але-ж пакіньма гэтых аматараў чорна-чырвонае гамы, трасца зь імі. Зьдзіўляе іншае – да якіх "пэрлінаў" могуць сыйсьці нашыя дэмакратыёіды. Мала таго, што да апошняга шэкелю прысабечваюць падачкі "dla rozwoju demokracji", дык яшчэ й шкодзяць сапраўдным героям супраціву зарабляць на які жыцьцёва неабходны балёнік з фарбаю – распаўсюджваць моладзевыя газэты. Тутака міжволі ўзгадваецца студзеньскі мітынг сацдэмаў на Траецкім пляцы (сёньня – пл. Парыскае Камуны). Толькі выняў быў малады распаўсюднік газэтаў з торбы колькі дзясяткаў "Гэта Мы!", як ірвануліся да ягонае постаці ад арганізатараў цётка з значкам "Хартыі" на рудой дублёнцы ды мужык-агэбэшнік... Прабачце – агэпэшнік. Так, і менавіта сябра багданкевічаўскае лавачкі, які на пары зь вялікай хартыйскай сяброўкай зусім сьціпленька гэтак наехаў на хлопца. І пачалі закіды на адрэсу "паліцайскае фоткі" й "чарнасоценнага малойчыка" (гл. папярэдні нумар) межавацца з "надзіва прыстойнымі" эмацыйнымі выбрыкамі на "великомогучем". (Дэм.актыву не хапае транквілізатараў ад дзядзькі Біла – рыхтык час падлячыць нэрвікі). А наш хлапец, ветліва кінуўшы дуэт адрыгваць сваю кіслату адзін на аднога, тымчасам раскройваў па дыяганалях ладна зьледзянелы натоўп з "падрыўной літаратурай" у руках. І ці то нудотныя прамовы дарэшты абрыдлі, ці то ўзрастаюць прыхільнасьці да здаровага экстрэмізму – але ўсе асобнікі раскупілі за які дзясятак хвілінаў. Расхапалі, не зважаючы ні на выяву чарнафармавага ваяра, ані на ярлык "правакацыйнага выданьня". Разабралі, салодка таптануўшыся па юдавых парадах розных "актывістаў" (эсдэкаў, лібэралаў ды іншае нечысьці). Бо тое, як лёгка раскідваюцца гэтыя чужапасы мяном "фашыстоўцы", анікога ўжо не зьдзіўляе. Але няма чаго на іх крыўдаваць: такая гэта іхная махатмаўская парода. Таму што яны маюць адзіную будучыню – гібець у брудных эміграцкіх кварталах Брукліну ці Манхэтану. Пасьля перамогі Нашага Парадку на Нашай зямлі.

Выданьне заснаванае ў сьнежні 1997 году
Рэдактар А.Міксовіч
Наклад 299 асобнікаў
Адрэса для допісаў
220086,Менск,а/с 121